# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 38 (52) 26 лістапада — 9 сьнежня 1993 года Кошт 50 рублёў


Няма працоўных месцаў? Затое ж **СТВОРАНА НОВАЯ ПАРТЫЯ!**

**МАСКВА АЛЬБО ВАТЫКАН!** На каго будзем маліцца?

**АГІТАТАРЫ ЗА КАЛГАСЫ** слоў на вецер ня кідалі.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## Віленскія паведамленьні

### Ещце, дзеці, вітаміны!..

Як паведаміла газэта «Шальчя», са жніўня, калі ў Летуве інфляцыя была мінімальнай і складала толькі 0,9 працэнта, становішча значна зьмянілася. У верасьні яна складала 4,2, а ў кастрычніку — 7,3 працэнта. У кастрычніку на 18,9 працэнта ўзрасьлі цэны на бытавыя, транспартныя і іншыя паслугі, а на камунальныя ажно ў 3,5 раза, на 9,2 працэнта — на нехарчовыя тавары.

Акрамя таго, у кастрычніку падаражалі на 4,5 працэнта харчовыя прадукты: пшанічная мука вышэйшага гатунку — на 4,6, вараныя каўбасы — на 6,6, ялавічная шынка — на 3,1, сьвінная шынка — на 3,4, куры 1-й катэгорыі — на 0,9. Павялічылася таксама цана на яйкі, але зьменшылася на гародніну.

### «Глобальнае» пашырэньне

У Эйшкісе створаны філіял каўнаскага таварыства «Глоба» — грамадзкай, непалітычнай, дабрачыннай арганізацыі. Мэты таварыства: падтрымліваць праграмы ў галіне культуры, асьветы, мэдыцыны, сацыяльнай апекі, клопат аб хрысьціянскім выхаваньні ў летувіскіх школах.

### Пра паліцыю з гумарам

Мастак Іонес Варнас назьбіраў карыкатуры сваіх калегаў, малюнкі аб паліцыянтах у адну кнігу пад назвай «Паліцыя». Скрозь сьмех і скрозь сьлёзы». Разам з карыкатурамі мастака зьмешчаны таксама анекдоты пра службовых асобаў. Выдадзена таксама кніга для дзяцей «Пазнаёмімся: Паліцыя». Аўтар яе Зубар Джавахішвілі разважае, ці жыве ў Летуве Сільвестр Сталонэ, паведамляе аб прызначэньні і дзейнасьці ўсіх службаў паліцыі.

### Ніхто не забыты, нішто не забыта

На Медынінкайскім пасту Віленскай мытні адкрыты помнік работнікам паліцыі й мытні, якія трагічна загінулі ў 1991 годзе на гэтым месцы. З гэтага часу сем крыжоў з белага мармуру, усталяваных над саркафагам, сустрэнуць кожнага, хто будзе перасякаць летувіскую мяжу.

### Ільготы для састарэлых

Зьменена пастанова, на падставе якой асобы, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, мелі магчымасьць карыстацца ільготамі на дзяржаўным транспарце. Зараз ільгота — паўцаны за білет на аўтобусах далёкага й мясцовага руху і цягніках далёкага руху — распаўсюджваецца ўжо з 70-ці гадоў.

**По матэрыялах летувіскай прэсы падрыхтаваў**

**А. ДУК.**

## Весткі з Польшчы

■

75-я ўгодкі Незалежнасьці Польшчы сьвяточна адзначаліся па ўсёй краіне. Падчас набажэнства ў Беластоцкай праваслаўнай царкве сьв. Мікалая прысутнічалі каталіцкія сьвятары, а таксама ваявода мэр Беластока і іншыя прадстаўнікі гарадзкой адміністрацыі.

«**Gaseta Wyborcza**», адно з буйнейшых у Польшчы выданьняў на першай старонцы сьвяточна нумара аніводным словам не ўзгадала аб дзяржаўным сьвяце.

■

Адна з школак у Бельску-Падляскім зьмяніла сваю назву. Узамен імя К. Ракасоўскага стала называцца імем Я. Пілсудзкага. Кандыдатуру Я. Пілсудзкага прапанаваў адзін з супрацоўнікаў інстытута Гісторыі ў Варшаве. Дарэчы, той самы навуковец, які ў мінулым ухваляў К. Ракасоўскага як сапраўднага жаўнера Чырвонай Арміі і як вызваліцеля Польшчы.

■

Помнік Яну Паўлу II хутка павінен зьявіцца ў Беластоку на плошчы побач з вуліцай Кілінскага. Гэта на тым самым мейсцы, дзе перад вайною мясьціўся гатэль «**Ritz**», які ў той час быў візытнай карткай горада.

■

Жэнэўскі банк разьвіцьця ісламу выступіў фундатарам будоўлі ў Беластоку мусульманскай школы, у якой будзе вывучацца Каран. Акрамя гэтага ў плянах ісламскага цэнтра будоўля мячэці.

**Па матэрыялах польскага друку падрыхтаваў**

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

## Аб роднай школе — без роднай мовы

Пра лёс нацыянальнай школы, месца мясцовай улады па ўдасканаленьню дзейнасьці пэдагагічных калектываў зацікаўлена гаварылася нядаўна на сэсіі Воранаўскага раённага Савета народных дэпутатаў.

Разам з імі ў абмеркаваньні гэтага пытаньня ўзялі ўдзел і працаўнікі асьветніцкай нівы, усяго 7 чалавек. Ды яны, як і іншыя прамоўцы, гаворачы аб праблемах роднай школы, абыходзіліся без дзяржаўнага слова. Пасьля гэтага цяжка верыць шаноўным пэдагогам, што яны настойліва змагаюцца за «адраджэньне беларускага слова».

Толькі адзін чалавек — дэпутат Анатоль Жулега, намесьнік дырэктара экспэрымэнтальнай базы «Кастрычнік» — даў урок тым, хто грэбуе матчынай мовай. Гаспадарчы кіраўнік, што ў нас бывае рэдка, гаварыў пабеларуску. На фоне гэтага выступленьня ня лепшым чынам адчуваў сябе прысутны на сэсіі начальнік упраўленьня адукацыі аблвыканкама Аляксей Саўчык.

Варта дадаць яшчэ вось што. Старшыня раённага Савета Аляксандр Зайко пачаў не без цяжкасьці весьці сэсію на беларускай мове, а потым перайшоў на расейскую.

Высновы з гэтых фактаў чытач, спадзяюся, зробіць сам.

## Памяці настаўніка і паэта

**Журботная вестка прыйшла з Ваўкавыска: ня стала Сяргея Аляксандравіча Бандарэнкі. Сьмерць падкралася да гэтага цудоўнага чалавека неўзабаве пасьля яго 75-годдзя і болем адгукнулася ў сэрцах многіх людзей, што ведалі і шанавалі добрага настаўніка і сьціплага паэта.**

Амаль увесь пасьляваенны пэрыяд жыцьцё Сяргея Бандарэнкі зьвязана з Гарадзеншчынай. Працуючы ў Астрыне настаўнікам школы, інспэктарам рана, Сяргей Аляксандравіч многае рабіў для ўратаваньня роднага слова, выкарыстоўваючы для гэтага школьныя ўрокі і бацькоўскія сходы, старонкі Васілішкаўскай раённай газэты «Ленінскі шлях» і лекцыі на пэдагагічныя тэмы. Гэтай шляхетнай справе ён застаўся верны ўсё жыцьцё. Пра што часта ўспамінаюць былыя выхаванцы настаўніка — выпускнікі Бераставіцкага і Ваўкавыскага пэдвучылішчаў.

Мне ж хочацца прыгадаць адзін з яскравых фактаў падзьвіжніцкай дзейнасьці С. Бандарэнкі ў былым Васілішкаўскім раёне. Гэта па ініцыятыве Сяргея Аляксандравіча ў пачатку 50-х гадоў быў наладжаны шматлюдны фэст у Старым Двары і Шастакоўцах у гонар знакамітай паэтэсы-зямлячкі Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Па закліку настаўніка і яго верных паплечнікаў з іншых школ на ўрачыстасьць сабраліся тысячы сялян. (Заўважым, што ў той час пра ўнутрыраённыя аўтобусныя маршруты не было і мовы). А прыхільнікі паэткі дружна сабраліся на тое сьвята.

Прыкра і горка з-за таго, што нас пакідаюць цудоўныя людзі. Ды цешыць адно: іх добрыя справы помніць люд беларускі.

**А. ЖАЛКОЎСКІ.**

## ЗАЯВА апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце

Спадары дэпутаты, паважаныя грамадзяне!

Становішча ў краіне дасягае крытычнай мяжы. Два дні ў Вярхоўным Савеце разглядаліся шляхі выхаду з крызісу і дзейнасьць Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, антынародная палітыка якога давяла да разбурэньня беларускую эканоміку, да энэргэтычнага голаду, да беспрацоўя, да спыненьня вытворчасьці й зьбядненьня людзей. Менавіта гэты ўрад былой БССР і паслухмяны яму Вярхоўны Савет сваімі безадказнымі паводзінамі ініцыявалі «прыхватызацыю», рабаваньне дзяржаўнай маёмасьці, затармазілі рынкавыя рэформы, паспрыялі стварэньню спэкулятыўнага рынку і рынку дэфіцытаў, раскручваньню махавіка інфляцыі, паставілі пад пагрозу дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Такі ўрад ня можа кіраваць дзяржавай. Мы паставілі пытаньне аб яго адстаўцы. Такі кіраўнік, як спадар Кебіч, які за 3 гады нічога не зрабіў для сапраўднай рэформы, не павінен заставацца прэм'ер-міністрам. Выхад з крызісу бяз зьмены ўраду, бяз новых выбараў немагчымы.

Аднак ніякая крытыка, ніякія факты і аргумэнты аб безадказнай, разбуральнай дзейнасьці ўрада і яго кіраўніка, ніякія сьведчаньні аб крытычным стане нашай эканомікі і нашага грамадзтва ня ўзьдзейнічаюць на праўрадавую большасьць Вярхоўнага Савету і яго старшыню С. Шушкевіча. Яны, відаць, лічаць такое становішча нармальным, гэтак жа, як і далейшае існаваньне збанкрутаванага ўрада Кебіча.

Два дні абмеркаваньня дзейнасьці ўраду і пытаньне аб шляхах выхаду з крызісу, якое было ўнесена па прапанове апазіцыі, не далі выніку. Рашэньне аб адстаўцы Савета Міністраў не прынятае, адкінутыя ўсе канструктыўныя прапановы па выхаду з крызісу, ратыфікацыяй пагадненьня аб аб'яднаньні грашовых сістэм Беларусі і Расеі пастаўлена пад пагрозу дзяржаўная незалежнасьць Беларусі. Сам ход 13-й сэсіі адбываецца з парушэньнем рэглямэнту, не вытрымліваецца парадак дня сэсіі, пытаньні выносяцца на разгляд без падрыхтоўкі, без увагі на іх чарговасьць, некаторыя дэпутаты намэнклятурнай большасьці галасуюць за адсутных. У гэтых умовах мы, дэпутаты апазіцыі Народнага Фронту і іншыя дэмакратычныя дэпутаты, лічым далейшую працу Вярхоўнага Савету безпэрспэктыўнай, не патрэбнай для беларускай дзяржавы. Мы будзем прымаць захады, каб растлумачыць людзям неабходнасьць адстаўкі гэтага ўраду і правядзеньня нечарговых дэмакратычных выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

Мы не бачым сэнсу ўдзельнічаць у паседжаньнях 13-й сэсіі акрамя тых, дзе будуць разглядацца эканамічныя і палітычныя пытаньні, што ўплываюць на лёс Беларусі і якія тычацца зьмены інстытута ўлады нашай дзяржавы.

**Зачытана на сэсіі ВС РБ.**
**23.11.93 г.**

## Канфэрэнцыя пачынальнікаў

У Гарадзенскім дзяржаўным унівэрсітэце адбылася рэспубліканская навуковая канфэрэнцыя «Культура Гарадзеншчыны: спадчына, сучаснасьць, пэрспэктывы». Арганізатарам яе стаў факультэт беларускай філялёгіі і культуры. Ва ўступным слове дэкан факультэта дацэнт І. Жук адзначыў, што сёньня беларуская навука знаходзіцца на стадыі зьбіраньня матэрыялаў, выпрацоўкі сваёй мэтадалёгіі і таму сабраўшыхся на канфэрэнцыі можна назваць пачынальнікамі. А сабраліся ў зале не толькі гарадзенскія філёлагі, гісторыкі, краязнаўцы, але і госьці з Берасьця, Менска, Гомеля, Беластока, Гданьска. Прагучала каля трыццаці дакладаў, у якіх ішла размова пра дзеячоў культуры, пра помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры і яе носьбітаў, пра крыніцы і гістарыяграфію дасьледваньняў па культуры Гарадзеншчыны.

Спрэчкі і пытаньні вызвала выступленьне беларуса з Беластока А. Латышонка «Беларуская нацыя і беларуская ідэя». Месца і ролю Гарадзеншчыны ў разьвіцьці культуры Беларусі вызначыў у сваім выступленьні дацэнт У. Сосна (Менск). У заключных прамовах прафэсара А. Пяткевіча і ст. выкладчыка Г. Семенчука былі падведзены вынікі двухдзённай працы, прагучала прапанова рэгулярнага правядзеньня падобных канфэрэнцыяў (адзін раз у тры гады), якая была падтрымана ўсімі прысутнымі.

Матэрыялы канфэрэнцыі будуць выдадзены асобнай кніжкай — другім выпускам вядомых чытачам «Гарадзенскіх запісаў».

**В. ШВЭД,**
**дацэнт ГрДУ.**



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## Ідэялягічная панацэя для хворай эканомікі

### «Лялечны тэатр»

Гэта толькі з першага погляду можа падацца, што яны — гледачы, бо разселіся паўколам ад подыюма ў крэслах амфітэатра. На самой справе яны — гутаперчавыя лялькі. Усе іхнія рухі — усяго толькі вынік шморганьня за вяровачкі нейкага нябачнага на сцэне дырэктара тэатра, магчыма, славэтнага Карабаса-Барабаса. Унутры ў іх пілавіны й старыя анучы. Яны толькі імітуюць жыцьцё, сэрца ў іх няма. Скрадзена. Або яго ніколі не было, а толькі помпачкі для перакачкі крыві. Рухавічкі. Мэханізмы. Зрэшты, пра ўсё гэта даўно ўжо напісана. Хоць бы ў кніжках Салтыкова-Шчадрына.

Гледачы — мы. Мы сочым за іхнімі дэбатамі, нібы «працай». Нехта адзін гаворыць «а» і мы чакаем наступнага кроку, але чуем адно «а»-а-ааа!»

### Кепскія танцоры

Памятаю, як мне давялося некалі па нейкай справе трапіць у прамысловы аддзел гаркама ПКБ. Гаспадар габінэту быў учарашнім камсамольскім дзеячом. Гонар за сваю новую пасаду гэтак і праменіў з яго. Каб уразіць мяне, выпадковага наведніка, сваімі паўнамоцтвамі, уладай, ён пачаў абзвоньваць прадпрыемствы горада, «выбіваючы» плян да рэвалюцыйнага сьвята. Уяўляю, як гідка было слухаць каманды выскачкі людзям, якія ўсё жыцьцё займаліся сапраўднай працай, а не яе імітацыяй. Гэты самадавольны малады функцыянэр, сам не разумеючы таго, выглядаў, прынамсі, карыкатурна, але паколькі ў мяне ўжо тады было нешта беларускае ў душы, ён выклікаў у мяне грэбліваcьць з агідай.

У жніўні 1992 года адбыўся першы маскоўскі путч. Гаркам зачынілі. Але ў функцыянэра ўсё сёньня о`кэй. Ён займаецца валютнымі апэрацыямі, кіруе шыкоўным заходнім самаходам і адчыньвае лыткі гарадзенскіх дзяўчат на конкурсах хараства.

Старым функцыянэрам для поўнага шчасьця замала грошай ды самаходаў, ад улады яны таксама не адмовіліся. Апарат абкама перасяліўся ў аблвыканкам да свайго ўчарашняга члена абкамаўскага бюро. ЦК КПБ зачынілі, але яно пасьпяхова перабралася амаль цалкам у саўмін да свайго «партайгэносэ» Кебіча. Без страт, канешне, не абыйшлося — некаторых давялося адправіць на пэнсію. Вядома ж, апроч партбілетаў, усе яны мелі нейкія дыплёмы — хто з ВПШ, а хто й пэд — або сельгасінстытуцкія. Але за час іхняй працы ў абкамах ды ЦК дыплёмы амаль абавязкова дэвальваваліся. Яны нібы й спэцыялісты —«выбіваць плян», але ўчорашняга дня. Але сёньня, калі плян сканаў, патрэбны спэцыялісты сапраўдныя, як кажуць палякі — «фахоўцы».

Звычка камандаваць, «кіраваць» для іх, на жаль, зрабілася другой натурай. Іх з іхніх саўмінаўскіх ды іншых крэслаў магчыма толькі выштурхнуць у каршэнь. Самі яны не пойдуць. Гэта дзесь у Італіі габінэты міністраў могуць зьмяняцца, а ў нас урад па цэкоўскай звычцы прагне дачакацца другой «пяцігодкі пахаваньняў палітбюро». Кебіч рогам упёрся й няма рады!

Ва ўсім сьвеце ў палітыцы адбываецца своеасаблівы конкурс акцёраў, танцораў, дэкляматараў — назваць можна, як заўгодна. Адно ў СССР, КНР, КНДР конкурсы былі забаронены. Брэжнеў памёр, Маа-Дзэдун таксама. Конкурсы не дазволены пакуль у Паўночнай Карэі ды ў нас. Жыцьцё, аднак, дыктуе свае ўмовы, й усё сканчаецца часам зусім неспадзявана. Нездарма ж 21-га верасьня (цікавая дата!) Кебіч выставіў у Доме ўрада ахову на кожным кроку. «Рыльца ў пушку»? А потым хуценька войска цэлае займеў.

### Схалястыка

Плятуць-плятуць нешта. Што Кебіч, што Шушкевіч. Доўгія даклады, як калісьці брэжнеўскія. Іх у газэтах ніхто ўжо не чытае, бо сёньня няма парторгаў, прапагандыстаў ды агітатараў, якія абавязаны даносіць да масаў сказанае правадырамі. Кебіч, канешне, па-расейску ды са словамі «уважаемые депутаты». А Шушкевіч — не па-расейску, ды без гэтых кебічавых словаў. Але для дэпутатаў родная мова — трасянка. На трасянцы трэба, на трасянцы! Бо ні расейцы ж, ні беларусы, а — савецкія людзі мясцовага паходжаньня.

Успамінаецца вядомы Несьцерка. Дыспут з фанабэрыстым шкаляром.

Дамовіліся апазіцыя з часткай большасьці зьняць іх абодвух, але нешта не атрымліваецца. Дзіва што, калі ў Кебіча цэлае войска. Застаецца толькі чакаць: можа, ён перастане плаціць яму жалаваньне, й яно само ўзбунтуецца...

### Лёкайская грамата

Нават хітрыя казахі, якія яшчэ нядаўна былі рукамі й нагамі за рублёвую зону, надрукавалі свае «тугрыкі» з барадатымі мужчынамі ў чалмах... З рублямі засталося Закаўказьзе. Але ж тамака вайна шутае! Не да грашовай рэформы.

У нас, як быццам, вайны няма. Але без рублёў жыць ня можам. Адна справа, калі ў СССР законы ва ўсіх рэспубліках былі аднолькавыя. Зусім іншая рэч, калі на Беларусі будуць з Новага году расейскія законы, за што нам дадуць крыху расейскіх рублёў. А жыць жа мы ад гэтага лепш ня будзем. Людзі пераканауспепраканаы: беларускі рубель стане тым, чым ёсьць, г. зн. «лось» будзе 25-й, як на ім пазначана, а не 250 рублямі, але цэны таксама застануцца, таму мы зглеем у 10 разоў! Уся папярэдняя палітыка нашага ўрада пераконвае ў тым, што гэта праўда...

Белнацбанк дае за 1 расейскі рубель то 4 нашых, то 6. А будзе яшчэ горш. Таму для іх адзінае выйсьце — кінуцца, як у вір, у рублёвую зону. Бо палітыкі — лёкаі, бальшавікі, інакш ня могуць, як мусульманін брыдзіцца сьвініны. Бо інакш трэба праводзіць нацыянальную, а не антыбеларускую палітыку, патрэбна ўласная валюта (вось у чым паратунак!), а каб атрымаць пад яе даляры, неабходна правесьці прыватызацыю. На жаль, бальшавік ня можа рабіць насуперак сабе й адмовіцца ад антыбеларушчыны. На жаль, яго ня выперці з наседжанага месца, хіба што калом. На жаль, шчыры беларус заўжды — інтэлігэнт, пацыфіст.

Расейскі банк без прымусу дае за латвійскі лат 1500 рублёў. Ён папросту прымае прапанаваныя правілы гульні.

### Радок з верша

Прастытуцыю называюць першай у людзкой грамадзе прафэсіяй, *журналістыку* (па аналёгіі) — другой, а палітыкі, значыцца, будуць у гэтым шэрагу трэйцімі.

Прадалі Беларусь, прычым, зусім затанна, амаль задарма. Прадаўцы аказаліся занадта прадажныя. Значыцца, пакупнік трапіўся зацікаўлены, добры хабар даў.

Гэта пра іх ў 1916-м годзе напісаў М. Багдановіч «прадалі й аддалі ў палон». Нездарма ж верш доўгія дзесяцігоддзі не друкавалі. ЦК КПБ і Кантора мелі пільныя ідэялягічныя кадры. Верш называецца «Пагоня», вось чаму ім на сэсіі гэтак карціць знойку замяніць наш гэрб сярпом з молатам.

**П. ГРЭЦКІ.**

## Наўзамен працоўных месцаў стварылі партыю

Той, хто стала карыстаецца аўтобусным маршрутам № 17, 5 ці тралейбусам № 11, заўжды можа сустрэць людзей, якія пры дапамозе кулясак, кавеняк шукаюць сабе дарогу. Дзіўнага тут мала, бо гэта сьпяшаюцца на працу інваліды па зроку. Вытворчасьць, дзе працуюць інваліды, месьціцца ў Горадні на вуліцы Дзяржынскага. Каб пасьпець на працу ў час, і сьпяшаюцца гэтыя людзі. А на прадпрыемстве — усё як належыць: прахадная з вяртушкай, строгія кантралёры й рэгістратары працоўнага часу. Раней, калі ў былым СССР панаваў разьвіты сацыялізм, тут выпускалася шмат чаго. Зодчыя будаўніцтва камунізма нагружалі інвалідаў працай, плошчы за цяжкую ручную работу зусім мала (яшчэ некалькі год таму сярэдняя аплата працы інваліда была ніжэйшай у параўнаньні з іншымі групамі рабочых на 80—100 рублёў). Але скалечаныя лёсам людзі не пратэставалі, а былі ўдзячны Богу і партыі камуністых за такі малы заробак і невялічкі, на некалькі чалавек, пакойчык у інтэрнаце.

Дырэктарат таксама ня вельмі дбаў пра рабочых, а больш цісну на заваёвы кастрычніцкай рэвалюцыі, шальмуючы тым самым сьляпых, што толькі дзякуючы Савецкай уладзе інваліды змаглі стаць паўнавартаснымі членамі грамадзтва. А чаго было турбавацца дырэктарату? Інваліды працуюць, на іх можна сьпісаць усе свае недахопы. Здарыцца замінка з планам — вінаватыя інваліды, бо іх жа не заставіш працаваць як след і поўны працоўны дзень. Пад размовы аб спэцыфічнасьці ўзначальваемага імі прадпрыемства можна было сьпісаць што хочаш, выбіць льготы, дадатковыя крэдыты з дзяржбюджэту.

На жаль, той час мінуў, і развал Саюза, як у люстры, высьвяціў праблемы прадпрыемства для інвалідаў. Па-першае, большасьць прамысловых вырабаў, што вырабляюцца рукамі інвалідаў, апынуліся не канкурэнтназдольнымі. Сам выраб гэтых тавараў быў занадта энэргаёмістым. Каб пазьбегнуць крызісу на прадпрыемстве, найперш пачалі скарачаць менавіта такія вытворчыя ўчасткі. Але й гэта не дало адпаведных вынікаў, бо паўстала іншая праблема — кадры. І з гэтай праблемай тут справіліся проста. Узялі ды й скарацілі працоўных пэнсіянэраў. А каб хоць чым заняць астатніх, прыдумалі занятак — падзяліць рабочыя месцы. Асабліва «вынаходнікі» пашчыравалі ў цаху надомнай працы, дзе пераважна ручная работа. Дзялілі тут работу як толькі маглі, давалі па 0,5 рабочай стаўкі, адпраўлялі ў адпачынак без утрыманьня, скарачалі да трох дзён працоўны тыдзень. У той жа час, калі інваліды фактычна заставаліся без працы, на заводзе вялося будаўніцтва нікому не патрэбнага цэха. Губіліся сродкі, якія маглі б выкарыстацца на сацыяльныя пытаньні.

Спадар дырэктар, а працуе на прадпрыемстве кіраўніком Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь С. Я. Барсукоў, нават і не падумаў, як бы аблегчыць становішча інвалідаў. Часу на гэта ў яго хапала, але што яму інваліды й прадпрыемства, пошукі новых крыніц сыравіны, новых відаў канкурэнтназдольных тавараў. Ён ўжо даўно ўсё сьпісаў на зьнішчаныя нібыта эканамічныя сувязі, абвінавацiўшы ў гэтым невядома каго, бо, на яго думку, сыстэма размеркаваньня нават вельмі не благая. І замест таго, каб шукаць выйсьце, шаноўны спадар дырэктар разам з іншымі дэпутатамі ВС РБ ад Беларускага таварыства інвалідаў па зроку распачаў палітычныя гульні. Адным махам яны стварылі Партыю сацыяльнай абароны. Але каго абараніць такая партыя, калі яе лідары на даручаных іх кіраўніцтву заводах ня могуць стварыць элемэнтарных умоў існаваньня. А пакуль «стваральнікі» ў асяроддзі дэпутатаў ад інвалідаў па зроку жывуць у эйфарыі ад утварэньня новага палітычнага злучэньня, сьляпыя працягваюць гібець.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Рэзалюцыя па сацыяльна-эканамічнаму становішчу ў Рэспубліцы Беларусь, прынятая на паседжаньні Савета прадстаўнікоў Беларускага Незалежнага прафсаюза

**29 кастрычніка 1993 г.** **г. Салігорск**

Абмеркаваўшы сацыяльна-эканамічнае становішча ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускі Незалежны прафсаюз адзначае, што ў гэты час сітуацыя ў дзяржаве дасягнула той небясьпечнай мяжы, калі магчымы сацыяльны выбух.

Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь не змаглі зрушыцца нават ні на крок у сэнсе эканамічных рэформаў. Наўзамен рынкавых пераўтварэньняў ідзе ўмацаваньне плянава-размеркавальных мэханізмаў на ўсіх узроўнях выканаўчай улады.

У той жа час, калі ў краінах Прыбалтыкі і Расеі рынкавыя зносіны дазваляюць стабілізаваць эканоміку, даюць магчымасьць прадпрыемствам самастойна зьдзяйсьняць эканамічныя пераўтварэньні, што тым самым вядзе да напаўненьня спажывецкага рынку таварамі, паніжэньня ўзроўню інфляцыі, стабілізацыі коштаў, зьніжэньня беспрацоўя й падвышкі жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва, у Беларусі няма зруху у гэтым накірунку. Эканоміка ўсё болей і болей вязьне ў яміне крызісу. Прынятая сыстэма падаткаў канчаткова робіць прадпрыемствы банкрутамі. Карупцыя, злачыннасьць, хабарніцтва разьядаюць грамадзтва. Праваахоўныя органы, фінансуемыя з бюджэта, за лік падаткаплацельшчыкаў вядуць абарону толькі вузкакланавай да гэтуль існуючай партыйна-дзяржаўнай намэнклатуры, якая пры дабразычлівасьці Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў працягвае раскрадаць агульнанародны плён. У той жа час прымаюцца законы, скіраваныя на тое, каб канчаткова замацаваць адхіленьне пераважнай часткі насельніцтва рэспублікі ад створаных некалькімі пакаленьнямі багацьцяў.

Усё гэтае бязьмежжа ставіць у немагчымыя ўмовы тых, хто стварае гэтыя багацьці.

1. Ацэньваючы працу Вярхоўнага Савета як нестаноўчую і давёўшую к відавочным правалам у вобласьці заканадаўства, што давяло эканоміку рэспублікі да краху, а грамадзтва паставіла на мяжу сацыяльнай катастрофы, мы лічым, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь сучаснага скліканьня скарыстаў свае магчымасьці, і патрабуем датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета не пазьней вясны 1994 года.

2. Даючы ацэнку палітыцы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Вячаслава Францавіча Кебіча як антынароднай і антынацыянальнай, накіраванай да развалу эканомікі і паніжэньня жыцьцёвага ўзроўню працоўных, якая служыць толькі для падтрымкі захаваўшай свае пазіцыі камуністычнай намэнклатуры, мы патрабуем на чарговай сэсіі Вярхоўнага Савета прыняць рашэньне аб датэрміновай адстаўцы Савета Міністраў на чале з Вячаславам Францавічам Кебічам. Для часовага кіраваньня дзяржавай патрабуем стварэньня кааліцыйнага ўраду.

Незалежны прафсаюз зьвяртаецца да ўсіх працоўных Рэспублікі Беларусь, да ўсіх тых, хто не жадае болей пераносіць усе гэтыя незаслужаныя цяжкасьці, падтрымаць нас у вышэй згаданых патрабаваньнях. Ваша падтрымка — гэта наша сіла.

**Прынята аднагалосна Саветам прадстаўнікоў Беларускага Незалежнага прафсаюза гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў, энэргэтыкаў, а таксама — прадстаўнікоў іншых галін Народнай гаспадаркі.**





# ГРАМАДЗТВА

## Вялікі «адкрывальнік»

Ёсьць кіраўнікі, якія ўсё жыцьцё працуюць дзеля самаўсхваленьня. Пішуць розныя загады, ад якіх карысьці аніякай, а шкоды нямала. Але затое начальства можа пахваліць іх за энэргічную ініцыятыўнасьць. Старэйшыя чытачы памятаюць, як яшчэ ў 1974 годзе новы рэктар Гарадзенскага пэдінстытута А. Бадакоў аддаў загад выкарчаваць усю зеляніну вакол будынка інстытута. Шматшуму было вакол той «падзеі», нават «Вожык» умяшаўся.

За апошнія 20 гадоў кіраваньня гэтай ВНУ нямала адбылося такіх падзеяў, усчатых таварышам Бадаковым. Ня будзем успамінаць пра звальненьні ці цкаваньні нацыянальна сьвядомых кадраў, як, скажам, стварэньне па ініцыятыве рэктара непрыймальных умоў працы для слыннага гісторыка Міхася Ткачова, або пра вербаваньне кадраў з далёкіх ад Беларусі мясьцінаў, а прыгадаем новыя ініцыятывы таварыша Бадакова.

Так, сваім росчыркам пяра без абмеркаваньня на Вучонай радзе унівэрсітэта ён «рэфармуе» філялягічны факультэт у «факультэт філялёгіі народаў РБ», тым самым адмяняючы дзяржаўныя канстытуцыйныя акты і яшчэ пакуль што не прынятую Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія гавораць, што нашу дзяржаву ўтварае адзіны беларускі народ, у склад якога ўваходзяць усе нацыянальнасьці, што пражываюць на Беларусі. Які празарлівец гэты рэктар! Акрамя беларускага ён адкрыў яшчэ шэраг народаў на Беларусі! Ці не гукаецца табе, паважаны чытач, за назвай згаданага факультэту чырвонакарычневы «Кангрэс народаў Беларусі»? Але даруем сабе гэтую ілюзію, нават ведаючы камуністычныя сімпатыі тав. рэктара. Дазволім сабе толькі суцішыць неабгрунтаваныя спадзяваньні прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў: факультэт робіцца не столькі дзеля іх, колькі дзеля таго, каб захаваць і надалей гэты буйны і моцны сродак русіфікацыі як беларусаў, так і саміх нацменшасьцяў.

Аднак гэніяльныя адкрыцьці таварыш рэктар робіць ня толькі ў сацыяльна-палітычнай тэорыі і практыцы, але і ў самой беларускай мове, якою, дарэчы кажучы, за столькі гадоў жыцьця і працы на Беларусі мог бы чалавек і з сярэднімі інтэлектуальнымі здольнасьцямі авалодаць без «адкрыцьцяў».

Так, у адным з загадаў (ад 02.7.92) ён загадвае планаваць нагрузку «за разьлікам на групу не больш чым 2 гадзіны **ў нядзелю** (падкрэслена мною — Р. П.) на працягу вучэбнага працэсу.

Выкладчыкі, якіх тычыўся гэты загад, былі нямала расчараваны неабходнасьцю працаваць яшчэ і ў нядзелю хай сабе нават толькі па дзьве гадзіны, але дачытаўшы яго да месца, дзе «работа па сумяшчальніцтву» дазвалялася «... ў адпаведнасьці з п. 1 **сапраўднага** загада», суцешыліся, бо ўцямілі, што ў А. Бадакова ёсьць «сапраўдныя», а, значыць, і несапраўдныя загады. І сапраўдны загад ня можа прымушаць працаваць іх яшчэ і па нядзелям за іх сьціплыя зарплаты. І правільна зрабілі, калі засталіся ў нядзелю дома.

Што-што, а з такім адкрывальнікам на працы не занудзішся! А калі ты, шаноўны чытач, спытаеш, а ці ёсьць карысьць з камандзіра, які нават загад граматна ня можа аддаць, то я асьмелюся сцьвярджаць, што гэтае пытаньне рытарычнае, бо адказу не патрабуе, і што такіх «адкрывальнікаў» нам дасталося ў спадчыну ад камуністычнага рэжыму безьліч на кожным узроўні...

**Радзівон ПІЛЬНЫ.**

## Старасьць — не радасьць

**У народнай прымаўцы гаворыцца так: «Самотнасьць у старасьці — гэта трагедыя. Вады і то няма каму падаць».**

**У цёплы час года старым людзям лягчэй. А вось зімой ім вельмі цяжка. Няма сілы прынесьці дроў, каб натапіць печ, холад «абымае» старыя косьці. Цяжка пайсьці да крамы купіць сёе-тое з харчаваньня. Зіма для такіх людзей нярэдка канчаецца трагічна. А такіх людзей у вёсках няшмат.**

Ня першы год пакутуе самотніца Надзея Каскевіч. Ёй мноства разоў прапаноўвалі ўладкавацца ў інтэрнаце для састарэлых, бо хатка яе больш за ўсё нагадвае сьвіран. Не згаджалася Надзея пакідаць сваю хату, бо ўсё ж свая, мазалямі нажытая.

Неяк занемагла кабета ў мінулую зіму, а якраз на двары стаяў моцны мароз. Суседзяў побач не было. Вынік — Каскевіч абмарозіла абедзьве нагі. Лекары насілу далі рады вылекаваць старую.

Як жа аблегчыць такім людзям старасьць? Пытаньне не рытарычнае, і яно не аднойчы ўздымалася на нарадах самых розных узроўняў работнікаў мэдыцыны. Пабудаваць інтэрнат ня так проста. Трэба шмат грошай. А дзе іх знайсьці?

Цікавы падыход да праблемы знайшлі ў Скідалі. Тут на першым паверсе будынка гарадзкога шпіталя стварылі сацыяльнае аддзяленьне для адзінокіх і састарэлых. Па задуме галоўнага лекара шпіталя А. Ярмаловіча ў аддзяленьні можна разьмясьціць некалькі дзесяткаў чалавек, якія знойдуць тут ня толькі прытулак і лекі, а і шмат сяброў. Пакуль што такіх людзей у аддзяленьні сем чалавек. Уладкаваліся яны па двое ў адным пакоі — так весялей.

Ці будзе іх тут болей? Сёньня сказаць цяжка, бо небаракі хоць і адчулі да сябе ўвагу, а ўсё ж сумуюць па пакінутай роднай хаце.

Вось што распавяла пазаштатнаму карэспандэнту «Пагоні» М. А. Неўгень: «Мне хоць і 83 гады, але калі палепшае, вярнуся да сваёй хаты. Хачу садзіць агарод, дыхаць сьвежым паветрам. А затым глыбокай восеньню зноўку вярнуся сюды, каб лягчэй перажыць халады, адзіноту».

**І. БАРЫСАЎ.**

**На здымку: М. А. НЕЎГЕНЬ. Фотаздымак аўтара. 231761г. Скідаль, вул. Шчаглова, 36-А.**



## Крыніцы здароўя

Непадалёк мястэчка Дзятлава адбылася ўрачыстая прэзэнтацыя новага на Гарадзеншчыне лекавага санаторыя «Радон».

Новая здраўніца месьціцца на сутыкненьні дзьвюх рэчак Паніквы і Моўчадзі. Непадалёк крыніцаў лекавага радону красуецца рэліквенны лес. Бліз лесу будаўнікі, а ўзводзілі санаторый Зэльвенская і Казлоўшчынская ПМК міліярацыі, ствараецца цэлая нітка штучных азёраў. За зіму будаўнікі добраўпарадкуюць берагі азёраў, створаць на іх адмысловыя пляжы, дзе будуць улічаны патрабаваньні ўсіх групаў хворых.

Днямі санаторый дзеля апрабаваньня абсталяваньня ў аддзяленьні для хворых апорна-рухавага апарату прыняў першых пацыентаў. Падтрымаць свае сілы сюды прыехалі менчукі, масквічы, калінінградцы і санктпецярбуржцы. Пэрыяд адаптацыі і станаўленьня ў хворых прайшоў на выдатна. Тыя, хто падлекаваўся — выказвалі жаданьне прыехаць яшчэ.

Акрамя аддзяленьня, якое лякуе захворваньні апорна-рухавага апарату, неўзабаве будуць адчынены яшчэ два аддзяленьні для лекаў нервовых і гінэкалягічных захворваньняў.

З увядзеньнем гэтых падразьдзяленьняў санаторый аднагчасова зможа прыняць звыш 400 чалавек.

Дарэчы, пераважная частка палатаў разьлічана на 1-2 чалавекі. Ёсьць нумары-люксы, якія ўяўляюць сабой гасьцёўню і спальню. Галоўнае лячэньне ў санаторыі — радонавыя лазьні. Але пэўную ролю будуць адыгрываць і фізіятэрапэўтычныя габінэты, масажныя, гразелячэбніца і многае іншае, што створыць выдатныя ўмовы для адпачынку і працы. І каб гэта ўсё адпавядала рэчаіснасьці, сёлета тут закуплена айчынных і замежных лекаў больш як на 2 мільёны рублёў. А з Нямеччыны ад беларуса на эміграцыі спадара Мельніка прыйшоў гуманітарны груз.

**Г. У.**

## Беларусі патрэбна свая царква

У старажытнай прымаўцы гаворыцца так: «Калі вялікія сварацца — малыя выйграюць».

З задавальненьнем назіраў, як паляпшаліся ўзаемаадносіны паміж праваслаўнай царквой і касьцёлам. Відаць, у Маскве і ў Ватыкане пасьля доўгага адмаўленьня зразумелі, што надышоў час збліжэньня. Пакрысе пачалі зьяўляцца новыя прыходы праваслаўных у Эўропе і каталікоў у Расеі. Маскоўска-Ватыканская адліга пазытыўна адбілася і на зямлі Беларусі. Дзе-нідзе паміж канфэсіямі пачалося супрацоўніцтва. Загаварылі словам Боскім і адроджаная Вунія.

На жаль, паразуменьне працягвалася нядоўга. А з цягам часу перарасло ў адкрытую канфрантацыю.

Маскоўскія духоўныя саноўнікі абвінавацілі Ватыкан у тым, што ён вярбуе сабе вернікаў у розных краінах СНД. Абвінавачваньні зьверху падхапілі на месцах. Асабліва зацята падтрымліваюць маскоўскіх братоў беларускія сьвятары. Яны на старонках рэспубліканскіх газэт пачалі бэсьціць і каталікоў, і вуніятаў.

А тым часам, каб паказаць сваю пасьлядоўнасьць у супрацоўніцтве, у Польшчы пачалі праводзіцца экуменічныя дні розных канфэсій, дзе сьвятары-каталікі раяць сваім вернікам пайсьці ў царкву. Тое ж самае назіраецца ў праваслаўных прыходах.

Што ж тады адбываецца на тэрыторыі незалежнай Беларусі?

На мой погляд, кансэрватыўная расейская праваслаўная царква жадае зноўку панаваць на Беларусі. Для гэтага яна абвінавачвае Ватыкан у экспансіі на Усход.

Але чаму праваслаўе прайграе на Беларусі? Тут ёсьць два галоўных моманты. Першы: каталіцызм — больш прагрэсіўная вера, яна патрабуе ад вернікаў выконваць значна меней дагматычных запаветаў. Другі — каталіцкія сьвятары ахвотней супрацоўнічаюць з моладдзю, выконваюць імшу на беларускай мове. Ці ёсьць штонебудзь з гэтага ў праваслаўных прыходах? На жаль, нічога з вышэй пералічанага ў царкве не ўбачыш і не пачуеш.

Паўстае пытаньне: а навошта нам у сябе на Беларусі расейская царква? Ці ня лепей у незалежнай дзяржаве мець сваю аўтакефальную царкву?

Але ўздымаць аб гэтым пытаньне — справа саміх вернікаў. На дзіва, яны занялі пазіцыю маўчаньня. І іх не турбуе тое, што абываецца на тэрыторый ўласнай дзяржавы. Але трэба помніць, што Хрыстос стварыў адзіную царкву, адзіную веру. Сёньня гэта можа падмяніцца гульнёй у вялікую палітыку.

Якое тут можа быць выйсьце? Сьвядомым веруючым беларусам трэба ўсяго толькі паразумецца.

**Пятро ГЕРАСІМОВІЧ, праваслаўны вернік.**

## Ізноў прыціскаюць вернікаў

**Два тыдні запар на Гарадзеншчыне ў выхадныя дні вернікі-каталікі пазбаўлены магчымасьці слухаць каталіцкую праграму другога нацыянальнага радыёканала «Голас душы», якая ўвесь час дагэтуль трансьлявалася і па першым нацыянальным радыёканале. Як вядома, другі радыёканал працуе на хвалях УКВ і далёка ня ў кожнай хаце ёсьць магчымасьць яго прымаць.**

Праграма «Голас душы» выходзіць у эфір па выхадных днях толькі 30 хвілін, на беларускай мове. Звычайна каталіцкі сьвятар праводзіць чытаньні, якія за ім паўтараюць дзеці.

У Горадні цяпер у гэты час у эфіры зьяўляецца рэклямна-інфармацыйная праграма банка «Комплекс», вядома, парасейску і ў камэрцыйных мэтах. У нашай вобласьці атрымліваецца ўсё па Марксу: найперш матэрыяльнае, а духоўнае — другаснае. А сядзяць прыхільнікі гэтай філязофіі недзе ў аблвыканкаме, што на вуліцы Ажэшкі.

**(Ір).**

# ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЬЦЬ

## Агітатары за калгасы слоў на вецер ня кідалі

Страціўшы надзею шляхам агітацыі заманіць у калгасы асяродак Пінскай шляхты, бальшавіцкія агітатары з пахвальбы калгаснага жыцьця пераходзілі на прамыя пагрозы Поўначчу, Калымой, Салаўкамі. Хутка пасьля пагрозьлівых заяў з гаспадарак пачалі зьнікаць цэлыя сем 'і. Напалоханыя шляхцюкі пацягнуліся з прозьбамі аб прыняцьці ў калгас. Сярод іх быў і мой дзед. Пра тыя трагічныя падзеі ён успамінае так:

«Напрадвесьні 1949 года па нашых вёсках распачалі сноўдаць бальшавіцкія ўпаўнаважаныя. Мы думалі, што яны, як звычайна, будуць зьбіраць дадатковы падатак, таму сьпяшаліся хутчэй засеяць палеткі, бо ведалі, што ўпаўнаважаныя забяруць апошняе. Нашы перасьцярогі на гэты раз ня спраўдзіліся. Упаўнаважаныя раз 'яджалі па селішчах і агітавалі, каб людзі запісваліся ў калгас. Шляхта слухала, але дабравольнаісьці ў калектыўную гаспадарку не сьпяшалася. Вельмі ўжо было шкада ўласнай маёмасьці, якая, па словах тых жа агітатаратаў, павінна была стаць агульнай. Адчуўшы, што словы не знаходзяць адпаведнай падтрымкі, агітатары пачалі ўсім пагражаць расправай. Тое, што яны рабілі пагрозы сур 'ёзна, мы зразумелі хутка.

Яшчэ ня пасьпела закаласіцца збажына, як па акрузе папаўзьлі чуткі, што начамі бязсьледна зьнікаюць цэлыя сем 'і. Аўтары гэтых страшных аповядаў узгадвалі, што суседзі зьнікшых чулі, як ноччу вурчала машына. Чулі, як галасілі людзі ад нечаканай бяды. Страх і роспач напоўнілі нашыя хаты. Я ведаю, што многія сем 'і кладіся спаць не распранаючыся, замест падушкі клалі пад галаў клункі з харчам, запасной вопраткай. Асабіста ў нашай хаце я загадаў рабіць наступнае: павячэраўшы, дзеці разам з маёй цешчай ішлі спаць у гумно, якое было воддаль ад хаты. Рабілася гэта дзеля таго, каб хоць хто застаўся на бацькаўшчыне, бо там, дзе аніякіх папераджальных захадаў зроблена не было, вывозілася ўся сям 'я цалкам. На ўсялякі выпадак, калі нязваныя госьці будуць пытацца, дзе астатнія, мы дамовіліся казаць, што яны ў гасьцях у сваякоў у суседняй вёсцы. Ня ведаю, ці стрымала б гэта катаў. Але зараз, праз столькі год, думаю, што такі адказ мог стварыць шмат праблемаў сваякам. На шчасьце, бяда нас абыйшла, бо людзі мала-памалу панесьлі заявы аб уступленьні ў калгас. Твая бабуля, а мая жонка, гледзячы на іх, таксама пачала прасіць мяне зрабіць так, як робяць аднавяскоўцы. Апраўдваючы сябе, яна казала: «Калі добраахвотна ўступім у калгас, то хоць у сваёй хаце застанемся, а так, хавайся-ня хавайся, усё роўна трапім на поўнач і зьгінем».

Я аднёс сваю заяву ўпаўнаважанаму. Той, прачытаўшы яе, з пагардай зазначыў, што ў савецкай улады ёсьць спосабы прымусіць падпарадкоўвацца неслухаў-кулакоў.

Пасьля ўступленьня ў калгас усіх, хто яшчэ застаўся з сялян, да нас прыехаў сакратар бальшавіцкай партыі з вобласьці. Ён падзякаваў упаўнаважанага за выдатна выкананую працу і даў назоў нашаму калгасу — «Іскра». Толькі тут мы зразумелі, што такое калгаснае жыцьцё. Адным загадам наезжага старшыні па прозьвішчу Скораў нашы землі былі адабраны ў калгасную маёмасьць. Калі ж надышла восень, то сьледам за зямлёй пачалі забіраць коней, збрую, фурманкі. У больш заможных гаспадароў забіралі веялкі, малатарні. Аддаючы сваю ўласную маёмасьць, мы спадзяваліся, што з цягам часу нам заплоцяць. Але нашы спадзёўкі былі марнымі.

Забраўшы статак на калгасны падворак, савецкія ўлады пачалі думаць, як будаваць стойлы. Сваімі сіламі яны не жадалі штосьці зрабіць і пачалі забіраць у нас хлявы, клеці. У каго не было чаго забраць, выганялі на прымусовыя працы па нарыхтоўцы лесу.

Не жадаючы аддаваць збудаванае ўласнымі рукамі, многія пачалі паліць свае гаспадаркі. Наехаўшыя з гораду міліцыянты доўга шукалі ворагаў савецкай улады. Многіх падазроных забралі ў сьледчы ізалятар, адкуль ужо ніхто не вярнуўся.

Няўменьне кіраўніцтва калгасу гаспадарыць на зямлі ў першую ж зіму прывяло да голаду.

**Занатаваў Г. АСТРОЎСКІ.**

## *Брыгада «сьпецназа»*

Не, не пра ўзброеных аўтаматамі ды нажамі дэсантнікаў тут пойдзе гаворка. І не пра спэцыяльныя брыгады па барацьбе з бандытызмам і тэрарызмам. Брыгады паляводаў маюць поўнае права на ганаровае званьне — брыгады «сьпецназа». Чаму? Ды таму, што паляводаў заўсёды пасылаюць туды, дзе найбольш цяжкая праца, дзе здарылася ЧП калгаснага маштаба. Сапсаваўся ў калгасе адзіны пагрузчык. Паляводы ўручную, шуфлямі ды рыдлёўкамі грузяць угнаеньні на машыны пад праліўным дажджом. На фэрме зламаўся транспарцёр — горбы гною вышэй кароў. Выклікаюць паляводаў, і тыя віламі выносяць з фэрмы горбы гною. Згніло ў калгасе тон трыста буракоў, і паляводы з мужнасьцю лезуць у гнілую бураковую твань і чысьцяць ад гнілых буракоў сіласную яму, куды «разумнае» начальства дадумалася класьці на захаваньне буракі, зьверху затрамбаваўшы тоўстым-тоўстым слоем саломы і торфу. Здох плямянны жарабец, якому, пэўна, надакучыла ржаць над калгасным ладам жыцьця, брыгадзір і тут кліча «сьпецназаўца» — ідзі, Пеця, скуру здымі. Саляра ў камбайнаў скончылася — дывэрсія Масквы, анятож — «сьпецназ» косы ў рукі ды ў атаку. Ура! За Ста... цьфу чорт! За вольную незалежную Беларусь! Наперад!

Вопратка сьпецназаўца таксама досыць каларытная. Зашмальцаваная да рэшты ватоўка, старыя кірзачы або гумовыя боты, нават зімою, бо хто ж у валёнках у гной палезе. На галаве, заміж шлема кепка або шапка-вушанка. А ў прыгожай паловы — пару хустак на галаве, каб цяплей было. Рукавіцы-сьпяцоўкі выдаюць усім: і кармачам, і мэханізатарам, і конюхам, але толькі не «сьпецназаўцам». Правільна начальства думае: « сьпецназ» на тое і «сьпецназ», каб голымі рукамі біў супастатаў, то біш зімой фэрмы ад гною ратаваў. Хаця зімой і іншай работы хапае.

Быў адзін выпадак: рагулі-красулі да таго распанелі на калгасных харчах, што гнілую салому адмовіліся есьці. Падавай ім, маўляў, экзатычныя далікатэсы, а нято з голаду перадохнуць. «Сьпецназаўцы» й тут не разгубіліся, засунулі сякеры за пояс ды пайшлі лес пляжыць. Поўны прычэп сасновых лапкаў насеклі. І ачунялі рагулі-красулі, пакаштаваўшы далікатэсу, у якім было шмат вітаміну «С» ды іншых карысных для здароўя рэчываў. Шкада, канешне, загубленых хвойкаў, але й не на такія ахвяры пойдзе «сьпецназ», каб захаваць пагалоўе дойнага статку і напаіць родны беларускі народ цёплым парным малаком.

«Сьпецназ» — гэта элітарныя брыгады, сюды трапляе ня ўсякі з вуліцы, а толькі самыя вопытныя, трывалыя й непераборлівыя. Адным словам тыя, каго перамагчы немагчыма. Глядзіш, бывае, на сямідзесяцігадовую «сьпецназаўку», якая выйшла на бітву з сенам, і захапленьне цяжка стрымаць: так з віламі ўвіхаецца, куды лепш, чым Брус Лі са сваімі нунчакамі. Сапраўды, ёсьць жанчыны ў нашых «сьпецназах».

Заробак у брыгадзе «сьпецназа» таксама асобы, «сьпецназаўскі». За працоўны гэраізм і мужныя подзьвігі ім плацяць у 1,5—2 разы меней, чым іншым звычайным калгасьнікам. А яны й ганарацца — вось мы якія нязвычайныя. У нас нават заробак не такі, як ва ўсіх.

Часам у брыгаду «сьпецназа» ссылаюць у выхаваўчых мэтах вінаватых у злоўжываньнях калгасьнікаў. Выклікае старшыня якогась трактарыста або пастуха «на кавёр» і крычыць: «Зноў учора п 'яным валяўся ў рабочы час? Марш на тры месяцы ў брыгаду!»

Так што працуюць у «сьпецназе» толькі самыя маральна вытрыманыя й ідэйна загартаваныя фанатыкі калгаснага ладу. Яны й кормяць нас танным хлебам і булкамі з макам, малаком і кэфірам, мясам і каўбасамі. Пакуль яны ёсьць — будзе існаваць прыгонна-калгасны лад і будуць тлустымі й багатымі чырвоныя памешчыкі. Дык сьхілім галавы перад «сьпецназаўцамі», перад іх рахманасьцю, цярплівасьцю й рабскай пакорай.

**Андрэй ПЯТКЕВІЧ.**

## Непатрэбныя ўплывы імпэрскіх дабрадзеяў

Як вядома, яшчэ задоўга да камуністычнай рэвалюцыі шмат хто з расейскіх багацеяў уцякаў за мяжу, нібы тыя напалоханыя зайцы, каб ня пашкодзілі іх вяльможную скуру. Аблюбавалі яны прывабную Францыю, дзе вясёла разгульвалі з прыгожымі паненкамі, любаваліся на Эйфэлеву вежу. Гэтаксама спадабаліся ім і іншыя заходнія краіны.

Аднак ня сьпіцца спакойна тым фарысеям і іх нашчадкам з тае нагоды, што набылі сваю незалежнасьць іх «малодшыя» браты — беларусы і ўкраінцы. Маўляў, ніколі і ніякай Беларусі не было, а яе папросту выдумалі некалі самі расейцы. Толькі вырасла гэтая думка з таго, што за мяжой ні беларусы, ні ўкраінцы не хацелі з імі нават знацца. Быў адзін выпадак у Канадзе, дзе жыло ў той час шмат беларусаў і ўкраінцаў. Гэта былі звыклыя эмігранты, якія ехалі туды часова не ад добрага жыцьця. Завідкі бралі «старэйшых» братоў, што беларусы і ўкраінцы маюць добрыя заробкі і павагу сярод гаспадароў. Сталі яны пераконваць канадцаў, што гэта ніхто іншыя, як ворагі. Часткова ім гэта прапаганда ўдалася, і ў 1914 годзе за свой кошт яны пачалі будаваць канцлягеры, куды й заганялі нашых людзей. Праўда, гэтую хлусьню выкрылі, і за дрот трапілі самі зацейнікі.

Цяпер, калі Беларусь і Украіна нарэшце атрымалі сваю даўгачаканую незалежнасьць, я перакананы, што нашыя народы ніколі не стануць калоніямі імпэрыі. Хоць, разумею, шлях гэты яшчэ далёка ня скончаны. Мяне толькі зьдзіўляе тое, што прадаўжальнікамі імпэрскіх ідэй зьяўляюцца жыхары Беларусі, пра якіх узгадвалася ў артыкуле «Тэорыя, выцягненая з бальшавіцкага куфэрка» у адным з нумароў «Пагоні». Няўжо гэтыя людзі дагэтуль не разумеюць, што Беларусь даўно ўдыхнула свабоды і яе не зманіш назад такімі дармовымі ласункамі, якімі частаваў Жырыноўскі галодных дзетак у Маскве.

Нядаўна давялося пабываць на Смаленшчыне і Бранщчыне, адкуль паходзіць мая жонка. Колькі памятаю, яшчэ цешча адпавядала, што там жылі і жывуць беларусы, аднак і дагэтуль няма для іх беларускіх школак і культурных асяроддзяў. А ёсьць яшчэ і людзі, якія памятаюць, як іх землі далучалі да Расеі. Прыходзілі ў хату камісары ў скураных куртках, клалі на стол сьпіс і казалі, што з гэтага моманту чалавек будзе называцца рускім, а не беларусам і за гэта трэба паставіць подпіс. Зразумела, што кабура ад нагана была ў гэты момант разшпілена — на ўсякі выпадак...

Не магу ўцяміць яшчэ адно. Як у «старэйшых» братоў і дагэтуль, калі гістарычная праўда аб беларусах паўстала, калі краіну прызнаў увесь сьвет, хапае нахабства ўсё ж навязваць ёй двухмоўе і іншае імпэрскае начыньне. І як можна паважаць тую імпэрскую эміграцыю, якая з-за горкі ўсё яшчэ працягвае сеяць недавер паміж народамі.

Нарэшце нагадаю ўсім гэтым «дабразычліўцам» добра вядомую народную прымаўку: «Хто сее вецер, той буры пажынае»...

**В. СЕГІН,**
**пэнсіянэр.**

## Лёс гэрба вырашаны!

Неаднаразова чытачы газэты выказвалі абурэньне наконт таго, што будынак Гарадзенскага аблвыканкама па-ранейшаму «упрыгожвае» гэрб БССР, і пыталі, калі ж на яго месцы зьявіцца Пагоня. У ліпені загадчык агульнага аддзела аблвыканкама М. Шмыга казаў, што ёсьць яшчэ час, бо на зьмену сымболяў адведзена два гады, што вядуцца перамовы з гарадзенскім камбінатам мастацтваў аб вырабе Дзяржаўнага гэрба рэспублікі, запэўніваў, што ў хуткім часе будынак будзе мець належны выгляд.

Але на календары ўжо другая палова лістапада, а «воз и ныне там»: на аблвыканкаме па-ранейшаму вісіць гэрб БССР. На гэты раз загадчык агульнага аддзела выканкама паведаміў, што нядаўна заключана дамова з мастацкімі майстэрнямі наконт выраба Пагоні, што каштаваць гэта будзе крыху болей 9 мільёнаў рублёў і да канца бягучага года гэрб павінны зрабіць. Зараз таксама прапрацоўваецца варыянт выраба яго скульптарам Салятыцкім, бо, калі дамаўляцца напрамую, гэта будзе каштаваць прыкладна на два мільёны рублёў меней. Мяркуецца, што дзесьці ў пачатку будучага года Пагоня, нарэшце, зойме сваё месца.

**А. Д.**

## Габрэі Палесься: вытокі й культура

**У кастрычніку ў Берасьці распачаў працу новы навуковы Цэнтр па вывучэньню гісторыі і культуры габрэяў Палесься. Яго заснавальнікам сталі выкладчыкі і студэнты гістарычнага факультэта мясцовага пэдінстытута. Дарэчы, і месьціцца Цэнтр на кафедры ў гісторыкаў.**

Асноўнай мэтай Цэнтр ставіць арганізацыю і каардынацыю намаганьняў навукоўцаў па вывучэньню беларуска-габрэйскай культурна-гістарычнай спадчыны на Берасьцейшчыне. Плянуецца правядзеньне навуковых канфэрэнцый, выданьне і перавыданьне кнігаў і рукапісаў, стварэньне навуковай бібліятэкі па габрэістыцы. Дарэчы, ужо выдадзена першая кніга Я. Разэнблага (дырэктар Цэнтра) «Жизнь и судьба Брестской еврейской общины XIV — XX ст.».

Усіх зацікаўленых асоб і арганізацый Цэнтр запрашае да супрацоўніцтва. Зьвяртацца на адрас: 224003, г. Брэст, вул. Касманаўтаў, 21. Пэдінстытут, гістарычны факультэт. Цэнтр габрэйскай гісторыі і культуры. Тэлефон: 3-97-00, 3-01-39.

**С. ПІВАВАРЧЫК.**





# ПАДАРОЖЖЫ

## Італьянскі дзёньнік

**(4 жніўня — 4 верасьня 1993 г.)**

**Беларускіх дзяцей цяпер запрашаюць на адпачынак у розныя краіны Эўропы. Аня Старцава пабывала ў Італіі, дзе вяла дзёньнік, які яна даслала нам у «Пагоню».**

### У дарозе

Першы дзень была поўная неразьбярыха. Яшчэ не пасьпелі ад ´ехаць ад Менску, а ўжо некалькі разоў спыняліся нашыя аўтобусы й стаялі збоку дарог па хвілін сорак.

Мне надакучыла гэтая няўпэўнасьць, а дзеці паводзяць сябе як сапраўдныя дзікуны. На шчасьце, пазнаёмілася з дзьвюма ціхімі дзяўчынкамі — яны сёстры: старэйшая Алёна, а малодшая Сьвятлана. У нас завязалася цікаўная гаворка, і цяпер я пачуваюся зусім не адзінока.

Урэшце зноў едзем. Едзем моўчкі. Мінаем Баранавічы, праяжджаем невялікі горад Слонім, аб якім я нічога дагэтуль ня ведала. Хутка будзе Горадня, потым Польшча, а затым і Італія...

Якая прыгожая ў нас на Беларусі прырода! Усё навакол здаецца мне нечым блізкім і родным, хоць у гэтых мясьцінах я ўпершыню. Узгадваю маму: мы плакалі разам, калі разьвіталіся.

Сёньня добрае, сонечнае надвор ´е, чыстае неба, зялёная-зялёная трава, а мне чамусьці трошкі сумна...

А вось і Польшча. Здарылася нейкая затрымка, й мы прастаялі на польскай мытні каля шасьці гадзін. У аўтобусе горача, дыхаць няма чым, нас не пушчаюць на вуліцу, й гэтыя гадзіны падаліся мне, як тры гады.

І ўсё ж зноў едзем, едзем далей у Эўропу.

▬

Ужо другія суткі, як мы ў дарозе ў Італію. Уначы было ня вельмі цёпла, хоць, праўда, я й не замерзла.

Зараз мы на польска-чэшскай мытні. Навокал шмат-шмат аўтамабіляў, але, як ня дзіўна, меней чым за гадзіну мы мінаем гэтую мытню й зараз у Чэхіі.

Мы ўзьехалі на вялікі мост — тут пачынаецца Чэхія. Калі глядзець з яго ўніз, разьбягаюцца вочы. Там маленькія дамкі з чырвонымі дахамі быццам патанаюць у зеляніне. Фарбы такія яркія й кантрасныя, што я ўяўляю сабе нейкую карцінку, а ня нешта жывое, натуральнае. Я думаю, ці ня сьніцца мне ўсё гэта. Прыгожая краіна Чэхія...

Праяжджаем праз Славакію, Аўстрыю. І зноў толькі прыгажосьць. На вітрынах крамаў мноства цікавых цацак, адзеньня, абутку і яшчэ шмат-шмат усяго. Нашы дзеці не адрываюць свае пагляды ад вокнаў і чамусьці маўчаць... У аўтобусе ціха-ціха.

Аўстрыю мінаем хутка, на вуліцы ўжо прыцемкі. Вочы самі закрываюцца, й толькі замежныя прыгожыя аўтамабілі мільгацяць з запаленымі фарамі й перашкаджаюць хоць крыху задрамаць.

Уначы мы нарэшце ў Італіі.

### У сям ´і

Сям ´я, дзе я жыву, складаецца з пяці чалавек. Два хлопчыкі (блізьняты) — Ліно і Мірко, дзяўчынка — Лучана, бацька — Джузэпэ, й маці — Леа.

Напачатку я доўга не давала рады прызвычаіцца, але з кожным днём адчувала, як станаўлюся ўсё больш сьмелай.

Я сплю разам з Лучанай у адным пакоі. Гаспадыня Леа мне адразу вельмі спадабалася — яна добрая й ўвесь час мною апякуецца. Гаспадар Джузэпэ падобны да Чарлі Чапліна — з вусікамі й невялічкага росту. Чамусьці да яго ў мяне мала даверу.

Аднаго дня нас запрасілі на сьнеданьне да мамы Леа. Каб вы толькі бачылі, як ела гэтая бабулька! Пальцы абсмоктвала, брала ўсё рукамі, нажом не карысталася. Так ня культурна! Я ня бачыла такога ніколі.

Праз некалькі дзён я ўпершыню ў сям ´і замест нашага «дзякуй» сказала «gracio». Усе задаволена пляскалі ў далоні й крычалі «брава».

Пазаўчора быў цудоўны дзень. Кошка нарадзіла чатырох кацянят. Адзін зусім беленькі, другі шэранькі, трэйці чорненькі і чацьвёрты чорненькі з белымі плямкамі. Уся сям ´я была рада гэтай падзеі, і я таксама радавалася за ўсіх: і за кацянят, і за сям ´ю.

А яшчэ пазаўчора мы (я, Лучана, яе мама й тата, тры манашкі й яшчэ нейкая цёця) хадзілі ў грыбы. Мы падымаліся высока ўгору па вузенькай дарозе. На шляху нам сустрэўся прыгожы адзінокі касьцёл. Як высьвілася, у манашак былі вялізныя ключы ад яго дзьвярэй. Мы зайшлі ўнутр. Ён быў зусім маленькі, цёмны, але ўтульны й чыста прыбраны. Манашкі памаліліся, й толькі тады мы рушылі далей.

Знайшлі мы толькі адзін грыб, ды й той аказаўся нядобрым. Дахаты вярнуліся з пустымі рукамі, але бадзёрымі й задаволенымі добрым шпацырам.

Нарэшце хоць адзін дзень мінуў без дажджу, а перад гэтым увесь час ліло, як з вядра. А назаўтра мне пракалолі вушы й падарылі залатыя завушніцы. Учора быў другі дзень без дажджу.

А сягоньня зноў лье, й нават з градам. Я пазнаёмілася з рускай дзяўчынкай, якую клічуць Ірай. Яна, як і я, таксама адпачывае ў адной сям ´і. Мы чамусьці шмат пачалі распавядаць адна адной аб сваіх гарадах: яна аб сваім, а я аб сваім. Было вясёла і цікаўна, а Лучана нічога не разумела.

18 жніўня выдаўся вар ´яцкім днём. Мірко і Ліно недзе ад ´ехалі, гаспадыня й гаспадар на працы, а Лучана, здаецца, устала не з тае нагі. Я хачу выйсьці на вуліцу й пакатацца, а яна мяне не выпускае й пачынае біцца. Я ня вытрымала й дала ёй куксача, пасьля чаго яна выпусьціла мяне на вуліцу. Потым, калі я вярнулася, Лучана са сьлязьмі на вачах прасіла ў мяне прабачэньня. І мы зноў сяброўкі, як і раней.

Леа падарыла мне гадзіньнік ад нейкай цёці Дамянікі. Мэханічны, але вельмі прыгожы. Я ўвесь час думаю, чаму нават зусім незнаёмыя людзі так турбуюцца пра мяне.

▬

А ўчора ізноў ішоў дождж. Увечары мы езьдзілі ў бар і елі піццу. Я паспрабавала чатыры розныя гатункі: з грыбамі, з перцам, шынкай і сасіскамі. Нічога падобнага я дагэтуль у жыцьці не каштавала. Потым мы елі смачныя лёды, глядзелі тэлевізар, слухалі музыку, а позна ўвечары стомленыя й задаволеныя вярталіся дамоў. Мяне зьдзівіла, што ў бары было многа дзяцей, хоць месца гэтае, напэўна, для дарослых. Наколькі я зразумела, італьянцы любяць адпачываць сем ´ямі й пры гэтым нават увечары не пакідаюць сваіх дзяцей сядзець у хаце з бабулямі. Як гэта цудоўна й прыемна, й зусім ня так, як у нас.

Дзіўна, але я ўжо шмат ведаю італьянскіх слоў, а мае сябры нават могуць нешта сказаць па-беларуску й таксама ўважліва слухаюць, як тое ці іншае слова гучыць на нашай мове. Мне так добра, што нават ня ведаю, як мы ў хуткім часе будзем разьвітвацца. Думаю пра гэта, але нікому нічога не кажу.

Сёньня ізноў цэлы дзень лье дождж, а неба сьветлае-сьветлае...

### Трохі аб Італіі

Італьянцы, у прыватнасьці сям ´я, у якой я жыву, чысьцяць зубы толькі пасьля таго, як паядуць.

У лазенцы ў іх прыгожая вёхотка, зьнешне нагадвае ёлачку. Яе папросту прыемна трымаць у руках, ня тое што нават шараваць сваё цела.

Калі мыеш толькі рукі ці твар, то для гэтага карыстаешся ня так, як у нас, мылам, а спэцыяльнай бутэлечкай, з якой выціскаеш трошкі вадкасьці. А калі патрэбна мыць валасы, то й для гэтага ёсьць спэцыяльная бутэлечка ўжо з іншай вадкасьцю. І ўвогуле ў лазенцы стаіць шмат розных прыгожых бутэлечак для дарослых і дзяцей.

Пасьля таго, як памыешся, неабходна памазацца пудрай, каб потым цэлы дзень ад цябе зыходзіў прыемны водар.

На выпадак, калі пачуешся дрэнна, адразу ў лазенцы ёсьць званочак, у які можна пазваніць, і табе адразу прыйдуць на дапамогу.

Вось так мудрона, спрытна й энэргічна мыюцца ўсе італьянцы.

▬

Сёньня з Лучанай на роварах езьдзілі ў краму. Нічога больш прыгожага ў жыцьці бачыць не даводзілася. Асабліва мне спадабаліся мяккія цацкі, лялькі «Барбі», канструктары «LEGO», рознакаляровыя мячыкі й яшчэ шмат усяго.

Дарэчы, такой вялізнай крамы я яшчэ ня бачыла. Яна цягнецца, напэўна, на дзесяць кілямэтраў.

▬

У адзін з выхадных дзён мы езьдзілі ў Аўстрыю. Напачатку ехалі машынай, потым ішлі гадзіны дзьве пешшу. Але я так і ня ўцяміла, калі скончылася Італія і калі пачалася Аўстрыя. Толькі ў кавярні пачула, што гавораць ня толькі па-італьянску, а і па-нямецку. Потым мы на памяць сфатаграфаваліся, і ў мяне застаўся здымак з аўстрыйскай зямлі.

▬

28 жніўня ў майго гаспадара дзень нараджэньня. Тэлефанавалі і віншавалі, праўда, мне падалося, што ўсё ж званкоў было ня так шмат, сваякоў у яго значна болей.

Увечары прыходзілі знаёмыя, усе разам трошкі пасядзелі, але я так і не адчула, што гэта быў дзень нараджэньня. Дзень мінуў хутка й незаўважна.

▬

1 верасьня быў самым цудоўным днём. Мы езьдзілі на мора, цёплае, вялікае, прыгожае італьянскае мора. Я купалася ўвесь час, колькі мы там былі. А потым мы пайшлі ў Лунапарк, дзе каталіся на атракцыёнах. Я, Ліно, Мірко, Лучана наведаліся нават у пакой страху. У нас з Лучанай потым яшчэ доўга былі зьдзіўленыя вочы.

▬

Сёньня я апошні дзень у Італіі. Мне спадабалася гэтая краіна, людзі, я ўсё ў ёй палюбіла й вельмі сумна яе пакідаць. Ніколі не забуду жвавых, добрых італьянцаў, шчырых і вельмі неабыякавых да мяне людзей, якія ні аб чым мяне не распытвалі, а толькі імкнуліся зрабіць так, каб мне было добра. Ніколі не забуду невялічкі паўночны гарадок Удзінэ ў зялёным убраньні, наш акуратны, чысьценькі домік, кошку з маленькімі кацянятамі, маіх новых сяброў і ўсіх добрых знаёмых.

А заўтра я зноў паеду на Беларусь, маю Радзіму, дзе мая мама, тата, брацік і дзед з бабуляй...

**Ганна СТАРЦАВА,**
**вучаніца 5 класа.**
**г. Менск.**





ВІЛЬНЯ. Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.

